Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

УПРАВА МЭХАНІЗАЦЫІ І МАТАРЫЗАЦЫІ РСЧА

# ДАВЕДНІК
## МЭХАНІЗАВАНЫХ І МАТАРЫЗАВАНЫХ ВОЙСК РСЧА

## БАЯВОЕ ЎЖЫВАНЬНЕ ТАНКАЎ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК 1933

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

УПРАВА МЭХАНІЗАЦЫІ І МАТАРЫЗАЦЫІ РСЧА




# ДАВЕДНІК
## МЭХАНІЗАВАНЫХ І МАТАРЫЗАВАНЫХ ВОЙСК РСЧА

## БАЯВОЕ ЎЖЫВАНЬНЕ ТАНКАЎ



Выняткі са статутаў РСЧА
складзены тактычным
цыклем БТКУКС

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК 1933

# УСТУП.

Даведнік становіць сабой прыведзеныя ў пэўную сыстэму вынятkі з ПС—29, БСП—27, ч. II; БСА—27, ч. II і БСК, ч. II, р. 1—29, у адносінах баявога ўжываньня танкаў.

У даведніку няма ўказаньняў аб тэхніцы работы танкаў, а таксама не закрануты пытаньні выведкі, кіраўніцтва і сувязі ў танкавых часьцях і падразьдзяленьнях. Гэтыя пытаньні не асьветлены вышэйуказанымі статутамі, і дказ на іх да выхаду баявога статуту танкаў трэба шукаць у спэцыяльнай літаратуры, а ў адносінах выведкі, кіраўніцтва і сувязі—у „Временной инструкции по боевому применению танков“.

Пытаньні глыбокай тактыкі, натуральна, не змаглі знайсьці адбітку ў нашых статутах. Без асьвятленьня пытаньняў глыбокай тактыкі даведнік быў-бы няпоўным і не даваў-бы ўяўленьня аб асноўных афіцыяльных устаноўках па баявым ужываньні танкаў. Выхадам са становішча зьявілася ўвядзеньне ў даведнік у форме заўваг раду вынятак з афіцыяльных указаньняў па баявым ужываньні танкаў.

Неабходна адзначыць, што ва ўсіх выпадках, калі напэўна высьветлілася мэтазгоднасьць ужываньня танкаў, нашы статуты гэта падкрэсьліваюць, што-ж датычыцца мар аў і ахаванья агульнавайсковых злучэньняў, то ПС—29 гаворыць пераважна аб ужываньні бронясіл наогул, не падкрэсьліваючы работу танкаў, але і не адмаўляючы яе магчымасьці; гэта тлумачыцца недастат-

ковым высьвятленьнем магчымасьцяй танкаў да 1929 г. У сучасны момант пры вырашэньні пытаньняў аб маршах і ахаваньні агульнавайсковых злучэньняў неабходна ацэньваць сучасны стан танкаў (іх тэхніку і тактыку).

Усё, што ёсьць у ПС—29 і ў БСК, ч. II, р. 1—29 адносна танкаў, у даведніку дадзена.

З БСК—27, ч. II, узята толькі тое, што не ахоплена ПС—29.

З БСА—27 зьмешчаны толькі выняткі з арт. 82, 84 і 231; у астатніх сваіх артыкулах гэты статут не закранае пытаньняў аб танках.

Даведнік укладзены па разьдзелах бою з дапасаваньнем да парадку ў ПС—29.

Зьмест статутаў натуральна вызначыў сыстэму выкладаньня і клясыфікацыю пытаньняў.

*Управа матарызацыі*
*і мэханізацыі РСЧА.*

---

# І. АСНОВЫ БАЯВОГА ЎЖЫВАНЬНЯ ТАНКАЎ.

## 1. Баявыя ўласьцівасьці танкаў.

„Танкі здольны рухацца без дарог і руйнаваць штучныя перашкоды; пры ўжываньні масамі яны зьяўляюцца магутнай зброяй зьнішчэньня агнявых сродкаў праціўніка і жывой сілы, дзействуючы з пяхотай і коньніцай“ (ПС—29, арт. 9).

„Танкі ня могуць захапіць і ўтрымаць за сабой мясцовасьць; яны могуць толькі палегчыць гэту задачу пяхоце, якая застаецца рашучым родам войск“ (ПС—29, арт. 210).

Сучасныя танкі характарызуюцца наступным:

а) агонь танкаў сапраўдны толькі да 400 *м* з прычыны вельмі слабой прыцэльнасьці агню і вялікага расьсяваньня;

б) весьці назіраньне з танкаў вельмі цяжка, асабліва па бакох танкаў, што пазбаўляе іх магчымасьці дастаткова гібка манэўраваць у баі;

в) танкі абмежаваны запасам гаручага і бояпрыпасаў прыкладна на 5—6 гадзін бесьперапыннага баю;

г) падтрымліваць сувязь паміж танкамі без дапамогі пяхоты цяжка“ (БСП—27, ч. II, арт. 166).

## 2. Задача танкаў.

„Галоўная задача танкаў—пракласьці дарогу наступаючай пяхоце шляхам падаўленьня агнявога супраціўленьня праціўніка і зруйнаваньня яго штучных перашкод“ (ПС—29, арт. 207).

## 3. Ужываньне танкаў.

„Танкі аказваюць пяхоце магутнейшую падтрымку пры атацы праціўніка, які добра ўмацаваўся, або ў вытварэньні контратак пры абароне“ (БСП—27, ч. II, арт. 148).

„Уласьцівасьці сучасных танкаў дапускаюць ужываньне іх пры наступленьні рознымі спосабамі.

Танкі могуць ужывацца:

а) для атакі разам з пяхотнымі часьцямі;

б) для выкананьня самастойных задач у глыбіні абарончай паласы ў сувязі з дзействамі пяхоты і артылерыі;

в) для дзейства разам з коньніцай на флянгах праціўніка;

г) у саставе матарызаваных часьцей на флянгах і ў прарывах“ (ПС—29, арт. 206).

„Пры абароне танкі ўжываюцца ў контратаках і пры нанясеньні контрудараў. Як правіла яны ўступаюць у бой у той пэрыяд, калі праціўнік пранік у глыбіню абароны і яшчэ не пасьпеў упарадкаваць свае часьці“ (БСП—27, арт. 150).

„Танкі ўжываюцца на мясцовасьці, на якой няма натуральных перашкод, непераможных для іх, і якая дае м гчымасьць скрыта падвесьці танкі да раёну атакі“ (ПС—29, арт. 206).

„Умовамі выкарыстаньня танкаў зьяўляюцца:

а) раптоўнае зьяўленьне ў саставе атакуючай пяхоты;

б) адначасовае і масавае ўжываньне на шырокім вучастку, якое выклікае разгрупаваньне артылерыйскіх і іншых процібранявых сродкаў праціўніка;

в) эшалёнаваньне танкаў у глыбіню пры наяўнасьці рэзэрву іх, што дазволіць разьвіць атаку на дастатковую глыбіню;

в) цеснае ўзаемадзейства з пяхотай, якая замацоўвае за сабой занятыя танкамі пункты“ (БСП—27, ч. II, арт. 148).

Увага: Пункт „в“ арт. 148 БСП—27, ч. II, адносна неабходнасьці рэзэрву танкаў на полі бою

не пацьвярджаецца ПС—29. Па гэтым пытаньні ёсьць афіцыяльныя ўказаньні аб тым, што танкі як правіла ня трэба трымаць у рэзэрве.

### 4. Баявое разьмеркаваньне танкаў.

„Танкі звычайна дадаюцца пяхоце і дзействуюць з яе ўдарнымі групамі, як зброя пяхоты (ПС—29, арт. 134).

Для дзейства супроць артылерыі праціўніка і іншых аддаленых цэляй і для дэзарганізацыі работы яго тылу пры вялікай колькасьці танкаў частка іх можа вылучацца ў асобныя эшалёны дальняга дзейства—танкавыя групы ДД" (ПС—29, арт. 134—і 207).

„Асноўная маса танкаў у першую чаргу вылучаецца ў танкавыя эшалёны падтрыманьня пяхоты. Па магчымасьці частку танкаў трэба вылучаць у другія эшалёны, пяхоты" (ПС—29, арт. 207).

„Нормай дадаваньня танкаў вайсковым злучэньням трэба лічыць ня менш аднаго танкавага батальёна на стралковую дывізыю" (ПС—29, арт. 206).

„Найменшай танкавай адзінкай, якая дадаецца пяхотным падразьдзяленьням (батальёну, роце), зьяўляецца ўзвод.

Стралковая дывізыя з дадапага ёй танкавага батальёну ў першую чаргу арганізуе эшалёны падтрыманьня пяхоты, перадаючы іх у стралковыя палкі; толькі пры наяўнасьці магутных артылерыйскіх сродкаў, здольных падавіць агонь асноўных ачагоў праціўніка, або пры дадаваньні танкаў больш батальёну дывізыя вылучае эшалёны ДД (кожны эшалён ня менш роты)" (ПС—29, арт. 207).

**Увага.** Афіцыяльныя ўказаньні даюць наступную намётку адносна баявога разьмеркаваньня танкаў.

„Пры наяўнасьці дастатковай колькасьці танкаў (ня менш 3 батальёнаў танкаў на дывізыю) ёсьць магчымасьць і неабходнасьць (калі дазваляюць умовы мясцовасьці) арганізаваць аднячасовую атаку на ўсю глыбіню

абароны праціўніка да яго артылерыі ўключна. Для гэтага назначаюцца групы дальняга дзейства (ДД), групы дальняй пяхотнай падтрымкі (ДПП) і танкі непасрэднай падтрымкі пяхоты (НПП).

У групу ДД як правіла назначаюцца ня менш 2 рот танкаў.

У кожную групу ДПП групу звычайна назначаецца 1 рота танкаў для абслугоўваньня паласы наступленьня адпаведнага стралковага палка. Танкі НПП дадаюцца пяхоце з разьліку ад узвода да 1 роты на кожны стралковы батальён.

Узвод танкаў зьяўляецца апошняй адзінкай, якая можа дадавацца пяхоце. Падзяляць узвод на асобныя танкі зусім недапушчальна".

„Танкі ДПП прызначаюцца для дзействаў у глыбіні пяхотнай абароны праціўніка і асноўнае назначэньне іх— падаўленьне агнявых кропак (кулямётаў, кулямётных батарэй і паасобных гармат, якія разьмяшчаюцца па адваротных спадах і ў глыбіні пяхотнай абароны).

Іх праніканьне ў глыбіню абмяжоўваецца такім чынам $1^1/_2$—2 *км* ад пярэдняга краю, прычым адначасова танкі вядуць барацьбу з перашкодамі, якія зьяўляюцца на шляху іх прасоўваньня (процітанкавыя гарматы, батальённая артылерыя).

У групы танкаў, прызначаемых для дзейства ў глыбіні пяхотнай абароны (ДПП), больш мэтазгодна назначаць танкі тыпу „С", але пры адсутнасьці іх можна выкарыстоўваць і танкі тыпу „М".

„Закрытая мясцовасьць аказвае ўплыў на выкарыстаньне танкаў прыкладна таксама, як і на выкарыстаньне артылерыі. На закрытай мясцовасьці апошнюю цэнтралізаваць немэтазгодна; танкі ДПП становяць сабою цэнтралізаванае выкарыстаньне танкаў у руках камандзіра палка. Ва ўмовах закрытай мясцовасьці іх выкарыстаньне ў якасьці групы ДПП немэтазгодна; у гэтым выпадку правільна зрабіць больш моцнай групу танкаў НПП. Групу ДД можна назначаць і ва ўмовах

закрытай мясцовасьці, калі толькі вядома, што на ёй няма непераможных для танкаў перашкод".

„Для кавалерыйскага палка мы будзем мець адпаведна танкі ПК (падтрыманьне коньніцы), НКП і ДПК".

## 5. Падначаленасьць танкаў.

„Танкавыя часьці як правіла падначальваюцца тым пяхотным камандзірам, часьці якіх яны падтрымліваюць.

Танкі, даданыя баталаёну (роце), атрымліваюць задачы падтрыманьня пэўных рот (у ротах-узводаў), патрабаваньні якіх яны абавязаны выконваць (СП-29, арт. 207).

> Увага: „Група ДД нармальна зьяўляецца сродкам камандзіра дывізіі, часам корпусу.

Перадаючы тую або іншую колькасьць танкаў у стралковыя палкі, камандзір дывізіі можа, калі гэта лічыць неабходным, указваць, якая колькасьць з іх павінна быць вылучана ў групу ДПП, а таксама ўказаць першапачатковую задачу для гэтай групы, але сама група падначальваецца камандзіру стралковага палка і ў ходзе бою атрымлівае ад яго новыя задачы; у залежнасьці ад умоў абстаноўкі яна можа быць пераключана ў састаў танкаў НПП.

Танкі НПП як правіла падначальваюцца камандзіру стралковай роты (часам камандзіру батальёна)".

# II. ТАНКІ У СУСТРЭЧНЫМ БАІ.

Аб дзействах танкаў у сустрэчным баі гаворыць толькі СП-29 у арт. 152 і 164, падкрэсьліваючы выкарыстаньне танкаў з ударнымі групамі авангарду і галоўных сіл дывізіі, а таксама з часьцямі стратэгічнай коньніцы пры абыходзе для дзейства ва флянг і тыл праціўніка.

„.... Танкі (калі былі ў саставе авангарду) хутка высоўваюцца ўперад і дапамагаюць прасоўваньню удар-

най групы пяхоты, якая абыходзіць флянг праціўніка“ (ПС-29, арт. 152).

„Танкі (калі даданы) выкарыстоўваюцца са стралковымі палкамі ўдарнай групы дывізіі або з часьцямі стратэгічнай коньніцы.

Часьці стрэтыгічнай коньніцы (калі даданы корпусу) выкарыстоўваюцца для абыходу калён праціўніка і ўдару з флянгу і тылу. Ім могуць дадавацца танкі“ (ПС-29, атр. 164).

## III. ТАНКІ Ў НАСТУПЛЕНЬНІ НА ПРАЦІЎНІКА, ЯКІ АБАРАНЯЕЦЦА.

### 1. Агульныя палажэньні.

#### а) Умовы посьпеху прарыву.

„Прарыў фронту патрабуе пераважных сіл у паласе наступленьня ўдарнай групы, асабліва агнявых (артылерыі), і непарыўнага ўзаемадзейства пяхоты з артылерыяй і іншымі сродкамі атакі **(танкамі)**“ (ПС-29 атр. 116).

#### б) Значэньне танкавых сродкаў пры арганізацыі прарыву.

**„Пры арганізацыі прарыву неабходна,** вызначыўшы сыстэму абароны і ступень інжынэрнага абсталяваньня абарончай паласы праціўніка, падлічыць артылерыйскія, мінамётныя **танкавыя** і хімічныя **сродкі і, выходзячы з гэтага, вызначыць фронт прарыву**“ (ПС-29, арт. 169).

„Шырыня паласы галоўнага ўдару ў залежнасьці ад абароназдольнасьці пазыцыі праціўніка (умацаваньняў, глыбіні і арганізаванасьці сыстэмы агню) і характару мясцовасьці **вызначаецца артылерыйскімі магчымасьцямі злучэньня, колькасьцю танкаў і іншых дададзеных сродкаў падаўленьня. Для пашырэньня вучастку прарыву абарончай паласы вайсковыя злучэньні**

дзействуючыя ў кірунку галоўнага ўдару, узмацняюцца артылерыйскімі, мінамётнымі, танкавымі і іншымі сродкамі (ПС-29, арт. 189).

„Час, які даецца на падрыхтоўку прарыву, вызначаецца ступеньню інжынэрнага абсталяваньня і сыстэмай абароны, наяўнасьцю сродкаў падаўленьня і апэратыўнымі патрабаваньнямі. Чым больш узмоцнена абарончая паласа і наладжана сыстэма агню, тым больш часу патрабуецца на падрыхтоўку наступленьня. Але ў некаторых выпадках апэратыўныя патрабаваньні прымушаюць скараціць час на падрыхтоўку, ня гледзячы на значную сілу абарончай паласы. У гэтым выпадку патрабуецца адпаведнае ўзмацненьне вайсковага злучэньня сродкамі падаўленьня, патрабуючымі менш часу на арганізацыю кіраваньня імі (пераважна танкамі)“ (ПС-29, арт. 170).

„У выпадку абароны праціўніка суцэльным фронтам неабходна выведаць лік абарончых палос. Калі ў праціўніка ёсьць яшчэ тылавая паласа, то пры атацы асноўнай абарончай паласы трэба імкнуцца трымаць тылавую пад дальнім артагнём з тым, каб на плячох галоўных разьбітых сіл аўладаць і тылавой паласой.

Танкі і авіяцыя акажуць у гэтай задачы вялізарную дапамогу (ПС-29, арт. 184).

„Камандзіры дывізій па ўказаньнях камандзіра корпуса падрыхтоўваюць у другіх эшалёнах ударных груп стралковыя батальёны спэцыяльна для атакі тылавой паласы, якія, не адцягваючыся задачамі барацьбы з першай абарончай паласой, павінны хутка высунуцца і атакаваць тылавую паласу пры актыўным падтрыманьні авіяцыі. Для падтрыманьня гэтых батальёнаў вылучаецца артылерыя суправаджэньня. Пры наяўнасьці ў распараджэньні злучэньня танкаў для дзейства супроць тылавой паласы можа быць вылучаны спэцыяльны эшалён танкаў або назначаны адзін з эшалёнаў пасьля прарыву першай паласы“ (ПС-2,9 арт. 191).

**в) Уплыў танкавых сродкаў на характар артылерыйскай і інжынэрнай падрыхтоўні прарыву.**

„Пры наяўнасьці вялікай колькасьці танкаў прарыў можна пачаць і без папярэдняй або пасьля кароткай артылерыйскай падрыхтоўкі" (ПС-29, арт. 169).

Інжынэрная падрыхтоўка наступленьня складаецца: „...ж) у садзейнічаньні маскіроўцы танкаў на выходнай пазыцыі і ў загатоўцы сродкаў для перамаганьня танкамі штучных перашкод у абарончым разьмяшчэньні праціўніка (фашыны, туры і інш). Галоўная ўвага павінна быць зьвярнута па падрыхтоўку ўмоў хуткага прасоўваньня артылерыі і танкаў уперад" (ПС-29, арт. 197).

**г) Роля танкаў у разьвіцьці прарыву.**

„У пэрыяд далейшага разьвіцьця прарыву пяхоты танкі могуць адыграць рашаючую ролю, замяняючы сабой артылерыю, сувязь з якой у ходзе бою ўскладняецца" (ПС-29, арт. 208).

„Пры прарыве фронту коньніцу трэба выкарыстаць у апошніх эшалёнах, пускаючы яе ў справу пасьля поўнага прарыву абарончай паласы праціўніка. Калючы дрот павінен быць прыбраны да часу падыходу коньніцы, што могуць зрабіць сапёры і танкі. Коньніцы карысна дадаваць матарызаваныя часьці і, калі ёсьць, танкі" (ПС-29, арт. 192).

**д) Час скончэньня работы танкаў.**

Пасьля скончэньня прарыву і захопу артылерыйскіх пазыцый, а на пазыцыйных вучастках—пасьля аўладаньня тылавой паласой, танкі выводзяцца ў рэзэрв, не затрымліваючыся для замацаваньня за сабой занятага раёну" (ПС-29, а г. 208).

## 2. Арганізацыя танкавай атакі.

„Выведка абарончай паласы праціўніка павінна высьветліць сыстэму і характар штучных процітанкавых перашкод.

Плян атакі павінен прадугледзіць закончаную сыстэму мерапрыемстваў па вызначэньню гэтых перашкод (загатоўка фашын, тураў, дадаваньне танкам сапёраў, зруйнаваньне артылерыяй і іншымі сродкамі мінных палёў і інш.).

Для арганізацыі танкавай атакі неабходна вызначыць:

а) раёны і кірункі, выгодныя па ўмовах мясцовасьці для танкавай атакі, і сярэднюю скорасьць танкаў у залежнасьці ад умоў мясцовасьці;

б) шырыню фронту атакі і колькасьць эшалёнаў;

в) задачы танкавым эшалёнам;

г) парадак і час атакі (або сыгнал);

д) раён збору танкаў пасьля атакі.

Пры наяўнасьці часу неабходна арганізаваць сумесную вучэбна-тактычную траніроўку пяхоты з танкамі напярэдні наступленьня, але з той умовай, каб не раскрыць тайны падрыхтоўкі наступленьня. Падрыхтоўка танкавай атакі павінна адбывацца ва ўмовах захаваньня самай строгай тайны" (ПС-29, арт. 209 і 212).

> Увага: 1. „Групы ДД і ДПП як правіла пачынаюць наступленьне адначасова, пры гэтым пачатак наступленьня даецца з такім разьлікам, каб да часу атакі пяхоты з танкамі НПП групы ДД атакавалі артылерыю праціўніка, а групы ДПП, атакаваўшы станкавыя кулямёты і іншыя агнявыя кропкі праціўніка ў глыбіні пяхотнай абароны (1—2 *км* ад пярэдняга краю), працягвалі там-жа дзействаваць у поўнай гатоўнасьці да падаўленьня любой агнявой кропкі, якая сябе выявіць у момант атакі нашай пяхоты. Пасьля гэтага атакуе пяхота з танкамі НПП.

Танкі НПП, прызначаныя для дзейства з ротамі і батальёнамі другіх эшалёнаў, неабходна ў пачатку выкарыстаць для падтрыманьня першых эшалёнаў, пераключаючы іх у наступным на падтрыманьне сваіх рот або батальёнаў другога эшалёну. Для гэтага адпаведным падразьдзяленьням танкаў назначаным упачатку для падтрыманьня першых эшалёнаў, назна-

чаюцца зборныя пункты, адкуль яны ўжо дзействуюць з другімі эшалёнамі.

> Прыклад. У палку ёсьць батальён у другім эшалёне, для падтрыманьня якога прызначана I рота танкаў. У гэтым выпадку камандзір палка гэту роту танкаў упачатку перадае камбату першага эшалёну (на галоўным кірунку) з указаньнем, што пасьля дасягненьня такога-вось рубяжу гэтую роту трэба сабраць у пункце А, дзе яна пераходзіць у распараджэньне камбату другога эшалёну".

. „Танкавая атака супроць праціўніка, які добра ўмацаваўся, ва ўмовах пазыцыйнай вайны, займаючага суцэльную абарончую паласу, разьвітую ў фартыфікацыйных адносінах спэцыяльнымі процітанкавымі перашкодамі і сродкамі (пашырэньне акопаў, мініраваныя палі, танкавыя лавушкі, надаўбы і іншыя перашкоды), патрабуе зьмены спосабаў баявога ўжываньня танкаў. У гэтым выпадку прыдзецца перамагчы пярэдні край абарончай паласы і магчыма яе глыбіню шляхам увядзеньня ў атаку перш-за усё танкавых эшалёнаў НПП пасьля больш або менш працяглай артылерыйскай падрыхтоўкі для зьнішчэньня процітанкавых перашкод (мініраваных палёў асабліва) і папярэдняга расстройства абароны праціўніка. Пасьля гэтага магчыма ўвядзеньне ў справу танкавых груп ДД для хуткага завяршэньня прарыву абарончай паласы праціўніка шляхам падаўленьня яго артылерыі, ліквідацыі падыходзячых да месца прарыву рэзэрваў і інш.".

### 3. Работа танкаў у баі.

„Танкі падаўляюць агнявыя кропкі праціўніка, перашкаджаючыя прасоўвацца пяхоце, якая падтрымліваецца імі, для чаго яны прасоўваюцца ўперад, у бок і г. д. Выконваючы гэту самую асноўную задачу, яны па магчымасьці падтрымліваюць і суседнія пяхотныя часьці

Прыпынкі танкі робяць толькі за закрыцьцямі.

Танкі, якія атакуюць з другімі эшалёнамі пяхоты, імкнуцца забясьпечыць ім найбольшую сілу ўдару пры атацы.

Эшалён танкаў ДД перш за ўсё атакуе артылерыю праціўніка, зьнішчаючы яе і адцягваючы ад барацьбы з танкамі, якія падтрымліваюць пяхоту.

Наступаючы ўнутры абарончага разьмяшчэньня праціўніка, танкам трэба па магчымасьці ўнікаць рухацца па палосах, не занятых абарончай пяхотай праціўніка, або праходзіць іх хутка, інакш гэта палегчыць умовы барацьбы яго артылерыі з танкамі" (ПС—29, арт. 211).

## 4. Узаемадзейства танкаў з пяхотай.

„Для ўдзелу ў баі разам з пяхотай танкі падвозяцца па чыгунках магчыма бліжэй да раёну, дзе маюць быць дзействы, і сканцэнтроўваюцца ва ўкрытым месцы. Сапраўдная дапамога танкаў пяхоце пачынаецца толькі з моманту зблiжэньня пяхоты з праціўнікам на дыстанцыі атакі" (БСП—27, ч. II, арт. 149).

„Падтрыманьне пяхоты танкамі мае вялікае значэньне пры атацы пяхотай пярэдняга краю абарончай паласы праціўніка.

Сумесная атака пярэдняга краю найбольш забясьпечвае моцнае ўзаемадзейства танкаў і пяхоты.

Магчыма таксама арганізацыя атакі танкамі, калі пяхота атакуе пярэдні край праціўніка пасьля магутнай артылерыйскай падтрымкі, а танкі раптоўна для праціўніка падтрымаюць пяхоту ў атацы апорных пунктаў другой лініі.

Нявыгодай такога віду атакі зьяўляецца цяжкасьць арганізацыі ўзаемадзейства паміж пяхотай і танкамі, а таксама паслабленьне першага ўдару пяхоты.

Прарыў танкаў на суседнім вучастку і падтрыманьне сваёй пяхоты ў глыбіні абарончай паласы праціўніка шляхам атакі за флянг адпаведных падзяленьняў праціў.

ніка не магчымы па тых самых меркаваньнях" (ПС—29, арт. 208).

„Узаемадзейства танкаў са стралковымі падразьдзяленьнямі забясьпечваецца дэтальным узаемным азнаямленьнем з парадкам выкананьня баявых задач і добрай арганізацыяй сувязі. Азнаямленьне гэта адбываецца на мясцовасьці ў пэрыяд сумеснай выведкі камандзіраў танкавых і стралковых часьцей перад пачаткам атакі.

Камандзір пяхотнага батальёну загадзя з добра замаскаванага пункту, сабраўшы камандзіраў рот (часам узводаў) першага эшалёну і батарэй, дададзенай яму або падтрымліваючай яго артылерыі і танкавых камандзіраў, растлумачвае рашэньне пастаўленай батальёну задачы, намячае рубяжы і арыентыровачныя тэрміны для іх дасягненьня, манэўр рот і падтрымліваючых іх танкаў" (ПС—29, арт. 210).

„У пляне сумесных дзействаў прадугледжваецца:

а) разьмеркаваньне танкаў па асобных эшалёнах баявога парадку і задачы танкаў;

б) арганізацыя сувязі паміж пяхотай і танкамі;

в) мерапрыемствы, якія забясьпечваюць скрытнасьць руху танкаў (рух ноччу, у туман, ужываньне дымавых заслон, маскіроўка шуму працуючых матораў артылерыйскай стральбой або палётам самалётаў;

г) пачатак атакі для пяхоты і танкаў;

д) указаньні на выпадак няўдачы (БСП—27, ч. II, арт. 151).

„Танкі зьбліжаюцца ноччу або пад прыкрыцьцем дымавых заслон асобна ад пяхоты, якую яны даганяюць на рубяжы, з якога пачынаецца пяхотная атака" (ПС—29, арт. 206).

„У баі танкі рухаюцца сьпераду або на флянгах пяхотных эшалёнаў, пры гэтым пяхота ўзгадняе свой рух з

зействам танкаў, імкнучыся неадкладна выкарыстаць кожны дасягнуты імі посьпех.

Пяхотныя часьці рухаюцца ад танкаў на адлаленьні, якое забясьпечвае пяхоту ад знарадаў, накіраваных па танках, прыкладна на адлегласьці 200 *м.*

Пяхота, дзействуючы з танкамі, дапамагае ім арыентыравацца ў абстаноўцы бою, карыстаючыся для гэтага прасьцейшымі сыгналамі" (БСП—27, ч. II, арт. 152).

„Пяхота дапамагае танкам у іх барацьбе з процітанкавымі сродкамі (кулямётамі, буйнакалібэрнымі вінтоўкамі, артылерыяй).

Улічваючы скорасьць руху танкаў, пяхота прыкладае ўсе сілы да хутчэйшага перамаганьня прасторы.

Спыненьне танкаў або выбыцьцё іх са строю ні на мінуту не павінна прыпыняць наступаючую пяхоту, якая і бяз танкаў павінна быць здольна ажыцьцявіць прарыў" (ПС—29, арт. 210).

„Пры ўсялякіх перапынках і спыненьнях наступленьня пяхота імкнецца забясьпечыць танкам магчымасьць заняць укрытыя і зручныя для іх раёны (выходныя), падобна да таго, як гэта робіцца перад пачаткам атакі (БСП—17, ч. II, арт. 155).

„Як толькі пяхота дасягнула намечаных мэтаў і замацавалася ў занятым раёне, танкі павінны быць неадкладна вызвалены ад баявой работы; таксама танкі павінны быць вызвалены ад работы пры нястачы гаручых і змазачных матэрыялаў або бояпрыпасаў" (БСП—27, ч. II, арт. 154).

„Для сувязі паміж танкамі і пяхотай могуць служыць:

а) сьветлавыя і гукавыя сыгналы для некаторых нямногіх абазначэньняў (уперад, стой, назад);

б) зрокавая сувязь з камандзірскім танкам і прыйманьне ад яго сыгналаў;

в) пасыльныя;

г) радыётэлефон („БСП-27, ч. II, арт. 153).

Увага: 1. „Пры пастаноўцы задач сваім танкам пяхотны або агульнавайсковы камандзір не павінен вызначаць баявы курс, а, калі трэба

указвае агульны кірунак руху, а галоўнае, у якім месцы (раёне) падавіць агнявыя кропкі праціўніка. **Баявы курс на ўказаным кірунку вызначаюць танкавыя начальнікі.** У выпадку патрэбы танкі могуць зьмяняць баявы курс, застаючыся на назначаным кірунку (паласе).

Танкі НПП, выконваючы вядучую адносна сваёй пяхоты ролю, могуць знаходзіцца на розным ад перадавых эшалёнаў пяхоты аддаленьні. Гэта аддаленьне кожны раз вызначаецца неабходнасьцю мець зрокавую і агнявую сувязь з пяхотай і тым, каб ня толькі танкі вялі за сабою пяхоту, але і пяхота магла ў патрэбныя пэрыяды аказваць танкам сваімі агнявымі сродкамі дапамогу (барацьба з буйнакалібэрнымі кулямётамі, з батальённай артылерыяй і г. д.). У розных умовах агнявога насычэньня фронту праціўніка гэта аддаленьне будзе розным".

2. „Звычайна на сярэдня-перасечанай мясцовасьці (узгоркавая, з хутарамі або пералескамі) парадак атакі пяхоты з танкамі НПП будзе наступны.

Заняцьце пяхотай выходнага палажэньня для атакі пры наступленьні з танкамі рашаецца некалькі па-новаму.

Раней ва ўмовах толькі артылерыйскай падтрымкі выходнае палажэньне для атакі выбіралася ў сярэднім у 200 *м* ад пярэдняга краю абароню (граніца бясьпечнасьці ад сваёй артылерыі, страляючай па агнявых кропках на пярэднім краі).

Пры атацы з танкамі ня трэба абавязкова зьбліжацца да гэтых граніц, каб ня выклікаюць у сваёй пяхоце дарэмных страт ад абстрэлу праціўніка ў той час, калі нашы танкі яшчэ не атакавалі праціўніка.

У большасьці выпадкаў пры атацы з танкамі выгадней будзе мець выходнае палажэньне для атакі, больш аддаленае ад пярэдняга краю праціўніка, у межах да 400—600 *м* ад яго.

Калі пяхота зойме гэта палажэньне і значыць будзе гатова да атакі, пачынаецца атака танкаў, пры гэтым

ДД праходзяць у раён артылерыйскіх пазыцый працiўнiка i атакуюць іх, ДПП зьнiшчаюць станкавыя кулямёты i іншыя агнявыя кропкі ў глыбіні пяхотнай абароны. У гэты час пачынаецца атака танкоў НПП, якія ідуць на пярэдні край працiўнiка i зьнiшчаюць зьмешчаныя там агнявыя кропкі працiўнiка. **Як толькі танкі прыступілі да выкананьня гэтай задачы, пяхота імкліва кідаецца ў атаку.** Танкі НПП ідуць уперадзе пяхоты і нібы вядуць **за сабой пяхоту,** робячы скачок за скачком.

Калі няма танкаў ДПП, то танкі НПП часткова выконваюць і іх задачы, г. зн. у гэтым выпадку яны павінны кідацца на падаўленьне кулямётаў нраціўніка, паражаючых нашу пяхоту з глыбіні абароны або аддаленых флянгаў".

Пры ўваходзе на закрытую мясцовасьць (напрыклад, хмызьняк або высокае збожжа і інш.) пяхота з танкамі НПП павінна ўзаемадзейнічаць такім чынам: пяхота ідзе ўперадзе танкаў і, як толькі сустрэне супраціўленьне адпаведных агнявых кропак праціўпіка, наводзіць на іх свае танкі НПП. Апошнія, падавіўшы гэтыя кропкі, наперад ня кідаюцца, а прапускаюць міма сябе пяхоту, якая зноў наводзіць іх на новыя агнявыя кропкі.

На роўнай мясцовасьці, бяз укрыцьцяў, наступленьне скачкамі весьці нельга. У гэтым выпадку пачатак атакі адбываецца як звычайна; у далейшым танкі НПП, ня маючы ўкрыцьцяў, паглыбляюцца ў разьмяшчэньне праціўніка да граніц, якія забясьпечваюць агнявую дапамогу з боку сваёй пяхоты, пасьля чаго танкі зварачаюцца назад, набліжаючыся да сваёй пяхоты і падаўляючы ажыўшыя агнявыя кропкі, а пасьля зноў ідуць уперад, зноў захоўваючы цесную ўзаемную сувязь з пяхотай і г. д.

Само сабой зразумела, што на працягу наступленьня будуць сустракацца розныя вучасткі мясцовасьці, і пяхота і танкі НПП павінны ўмець гібка карыстацца вышэйуказанымі спосабамі ўзаемадзеяньня, пераходзячы ў працэсе бою ад адных да другіх".

## 5. Узаемадзейства танкаў з артылерыяй.

„У плянавай табліцы вайсковага злучэньня павінна быць улічана ўзаемадзейства артылерыйскай групы ДД і эшалёну танкаў ДД" (ПС-29, арт. 209).

Увагі: 1. „У працэсе наступленьня артылерыя ПП агрымлівае задачы:

а) на абстрэл танканедаступных месц і вучасткаў і
б) на аблямаваньне паласы наступленьня танкаў, калі танкі не наступаюць на ўсёй паласе.

Артылерыя ПП вядзе агонь уперадзе перад танкамі НПП, бо паміж імі і танкамі ДПП ёсьць цастатковая дыстанцыя, якая забясьпечвае свае танкі ДПП ад агню артылерыі ПП".

2. „Танкавая атака забясьпечваецца артылерыяй падтрыманьня танкаў. Для гэтага асобныя гарматы (батальённыя, палкавыя і нават дывізыйныя) высоўваюцца ўперад ва ўкрытыя або замаскаваныя месцы, маючы магчымасьць неадкладна адкрыць агонь па выяўляючых сябе з пачаткам атакі танкаў процітанкавых гарматах праціўніка. Гэтыя гарматы выгледжваюць сабе здабычу і потым хутка зьнішчаюць яе сваім агнём, не адцягваючыся для рашэньня якіх-небудзь іншых задач".

3. „Агульная схэма атакі ўяўляецца ў наступным выглядзе.

Кароткая артылерыйская падрыхтоўка працягласьцю ад 30 мін. да 1 гадзіны, у часе якой артылерыйская група ДД вядзе барацьбу з артылерыяй праціўніка, а артылерыйскія групы ПП вядуць агонь па выяўленых процітанкавых гарматах абароны і па раёнах падазроных у сэнсе наяўнасьці процітанкавых сродкаў.

Пасьля сканчэньня артылерыйскай падрыхтоўкі пераходзяць у атаку танкі ДПП, прызначаныя для дзейства ў глыбіні пяхотнай абароны. Артылерыйскія групы ПП у гэты момант бяруць на сябе задачу агнявога аблямаваньня гэтай групы ў далейшым, кіруючыся плянавай табліцай і ведаючы баявы курс танкаў, аблямоўваюць і папярэджваюць іх атаку сваім агнём

Як толькі танкі ДПП падышлі да сваіх аб'ектаў, пачынаецца атака НПП разам з пяхотай. Артылерыя ДД на працягу ўсяго часу вядзе барацьбу з артылерыяй праціўніка.

### 6. Узаемадзейства танкаў з коньніцай.

„Быстраходнасьць, усюдыходнасьць і значны радыус дзействаў танкаў дазваляюць ужываць іх для:

а) непасрэднага суправаджэньня конных часьцей (падразьдзяленьняў);

б) нанясеньня раптоўных і хуткіх агнявых удараў у агульнай сувязі з дзействамі коньніцы на флянгу або ў бліжэйшым тылу праціўніка" (БСК, ч. II, р. 1-29, арт. 60).

„Пасьпяховасьць сумесных дзействаў коньніцы з танкамі азначаецца наступнымі ўмовамі:

а) наяўнасьцю яснага пляну сумесных баявых дзействаў;

б) устанаўленьнем і падтрыманьнем цеснай сувязі шляхам захаваньня зрокавай сувязі паміж коньніцай і танкамі або непасрэдных зносін каманд танкаў з бліжэйшымі падразьдзяленьнямі коньніцы;

в) увядзеньнем у бой танкаў толькі пасьля таго, як коньніца выканае выведку мясцовасьці і праціўніка і вызначыць яго разьмяшчэньне" (БСК, ч. II, р. 1—29, арт. 61).

„Танкі могуць разьмяркоўвацца паміж групамі баявога парадку і падначальвацца адпаведным кавалерыйскім камандзірам на тых-жа ўмовах, што і броняаўтамабілі" (БСК, ч. II, р. 1—29, арт. 62).

Аб разьмеркаваньні і падначальваньні броняаўтамабіляў гаворыць арт. 59 таго самога БСК, ч. II, р. 1—29:

„Кавалерыйскі начальнік ставіць задачы аўтабранявым часьцям, не ўваходзячы ў абгаварэньне спосабаў выкананьня; камандзір дадаэага коньніцы аўтабранявога падразьдзяленьня (часьці) дакладвае кавалерыйскаму начальніку аб тэхнічным выкарыстоўваньні падразьдзяленьня.

Пры сумесных дзействах з коньніцай аўтабранявы ўзвод можа быць даданы падразьдзяленьням ня меніі эскадрону, бронядывізыён—часьцям (злучэньням) ня менш каўпалка. У гэтых выпадках камандзіры бранявых падразьдзяленьняў (часьцей) падначальваюцца кавалерыйскім камандзірам" (БСК, ч. II, р. 1—29, арт. 59).

„Пры наяўнасьці ў праціўніка процітанкавых сродкаў, барацьбы коньніца павінна дапамагчы танкам сваімі агнявымі сродкамі зьнішчыць перашкоды, з якімі танкі ня могуць весьці барацьбу" (БКС. ч. II р. 1—29, арт. 63).

„Няздольнасьць танкаў доўга ўтрымліваць захопленую мясцовасьць патрабуе ад коньніцы хуткага захопу яе жывой сілай сьледам за танкамі" (БСК, ч. II, р. 1—29, арт. 64).

## IV. ТАНКІ Ў ПРАСЬЛЕДВАНЬНІ.

„Да найбольшага посьпеху прыводзіць паралельнае прасьледваньне (з аднаго або абодвых флянгаў).

Яно магчыма:

а) калі ёсьць добрыя дарогі, якія дазваляюць папярэдзіць праціўніка на важнейшых вузлох шляхоў, на пераправах і ў цясьнінах, адкінуць яго ў цяжкапраходны раён, або прыціснуць да непраходнай перашкоды;

б) пры наяўнасьці часу і сродкаў перасоўваньня для хуткага выхаду на флянгі праціўніка (коньніца з танкамі і матарызаваныя часьці)" (ПС—29, арт. 244).

„Стратэгічная коньніца (калі дадана) з танкамі, батарэямі і нават адзіночнымі гарматамі дальнябойнай артылерыі накіроўваецца ў прарыў для ўдару па флянгах што ўтварыліся, або для ўдару па праціўніку, які згортваецца ў калёны, або для паралельнага прасьледваньня, калі праціўнік пасьпеў адарвацца..." (ПС—29, арт. 245).

„... Танкі дзействуюць з пяхотай і коньніцай супроць галоўных сіл праціўніка" (ПС—29, арт. 247).

# V. АБАРОНЧЫ БОЙ.

## 1. Удзел танкаў у абарончым баі.

„Ударная група (групы) дывізыі пераходзіць у контратаку па загаду камандзіра дывізьі або па прыватнай ініцыятыве яе начальніка, калі таго патрабуе абстаноўка...

... Танкі, броняаўтамабілі, броняпаязды і баявая авіяцыя атакуюць праціўніка разам (адначасова) з ударнай групай дывізыі..." (ПС—29, арт. 282).

## 2. Арганізацыя процітанкавай абароны.

### а) Выбар мясцовасьці.

„Пярэдні край абарончай паласы выбіраецца з разьліку стварэньня ўмоў перашкаджаючых праціўніку пасьпяхова ўжываць вялікія артылерыйскія сілы і атаку танкаў. Гэта дасягаецца выбарам адпаведнай мясцовасьці і маскіроўкай.

Уся сыстэма абароны павінна зводзіць (ашукваць) праціўніка адносна абрысу пярэдняга краю, агнявой яго сілы, глыбіні абарончай паласы і г. д.

Для барацьбы з танкамі праціўніка трэба імкнуцца па магчымасьці забясьпечыць сябе:

а) адсутнасьцю на баку праціўніка скрытых подступаў для падыходу і сканцэнтраваньня танкаў;

б) наяўнасьцю каля пярэдняга краю і ў глыбіні абарончай паласы непераможных або цяжка пераможных для танкаў перашкод, як напрыклад: рэчка, балот, буйны лес і інш.;

в) наяўнасьцю ў глыбіні абарончай паласы раёнаў, недаступных для танкаў і выгодных для разьмяшчэньня ўдарных груп;

г) наяўнасьцю такіх самых раёнаў, выгодных для разьмяшчэньня процітанкавых агнявых сродкаў, (ПС—29, арт. 256).

#### б) Плян процібранявой абароны.

„Для пасьпяховай барацьбы з бронячасьцямі загадзя распрацоўваецца плян процібранявой абароны, які ўключае пытаньні:

а) якія часьці, у якіх раёнах і якімі сродкамі абараняюцца;

б) агульны парадак абароны, задачы абароны па-раённа;

в) арганізацыя назіраньня і „служба трывогі";

г) арганізацыя сувязі.

**Плян процібранявой абароны распрацоўваецца і ажыцьцяўляецца у маштабе палка.** Раён абароны палка ў сваю чаргу падзяляецца на батальённыя раёны, процібранявой абароны. На чале кожнага раёну яго адказным кіраўніком зьяўляецца старшы артылерыйскі камандзір" (БСП—27, ч.II, арт. 163).

#### в) Разьмяшчэньне пяхоты.

„Разьмяшчэньне пяхоты ў абарончай паласе павінна быць такім, каб артылерыі праціўніка цяжка было вызначыць раёны разьмяшчэньня батальёнаў і рот, а танкам—вызначыць натуральныя і штучныя перашкоды. Для гэтага ня трэба займаць рубяжы і пункты, якія выразна выдзяляюцца.

Пяхота разьмяшчаецца ў адносінах да процітанкавых перашкод так, каб пакідаць незанятымі палосы (па асобным пляне), дазваляючыя абстрэл сваёй артылерыяй танкаў, якія перамагаюць або абыходзяць перашкоды" (ПС—29, арт. 258).

#### г) Групоўка і пазыцыя артылерыі.

„Артылерыя ў абароне ашалёнуецца ў глыбіню з такім разьлікам, каб і найбольш глыбока разьмешчаныя батарэі паражалі сапраўдным агнём пяхоту і танкі праціўніка на подступах да абарончай паласы.

Пры правільным разьмяшчэньні і мэтазгодным разьмеркаваньні агню артылерыя зьяўляецца найбольш магутнейшым сродкам барацьбы з танкамі.

Для барацьбы з танкамі, якія прарваліся ў глыбіню абарончай паласы, з дывізыйнай і карпусной артылеры вылучаюцца батарэі і асобныя гарматы, для якіх загадзя падрыхтоўваюцца пазыцыі для стральбы ў кірунках, не занятых пяхотай, згодна пляну процітанкавай абароны.

Пазыцыі гэтыя выбіраюцца з тым разьлікам, каб танкі не маглі іх атакаваць або ў крайнім выпадку, каб рух танкаў пры атацы моцна сьцішаўся (наяўнасьць натуральных або створаных штучна перашкод). Вылучаемыя батарэі і гарматы займаюць гэтыя пазыцыі, як толькі высьветліца кірунак атакі танкаў.

Адлегласьць ад гэтых пазыцый да раёну магчымага руху танкаў загадзя вымяраецца. Агонь вядзецца прамой наводкай. Карысна і асноўныя пазыцыі артылеры разьмяшчаць так, каб яны былі забясьпечаны ад танкавых атак (знаходзіліся за перашкодамі).

Палкавая артылерыя па-батарэйна або па-гарматна выкарыстоўваецца для барацьбы з танкамі ў якасьці кінжальных батарэй і гармат і разьмяшчаецца замаскавана на флянгах кірункаў, зручных для танкавай атакі. Батальённая і палкавая артылерыя разьмяшчаецца па пляну процітанкавай абароны палка, але батальённая артылерыя разьмяшчаецца ў раёне свайго батальёна або на флянгах так, каб у выпадку патрэбы магла дзействаваць з ім.

Для прыцягненьня танкаў у фальшывым кірунку будуюцца фальшывыя батарэі.

Апрача артылеры, якая разьмяшчяецца для стральбы па танках на загадзя падрыхтаваных пазыцыях, могуць з посьпехам ужывацца рухомыя батарэі (на трактарных установках) і цяжкія танкі, узброеныя 76-*мм* пушкамі" (ПС—29, арт. 259).

### д) Інжынэрная падрыхтоўка.

„Інжынэрная падрыхтоўка супроць танкаў складаецца з пабудовы ў залежнасьці ад умоў мясцовасьці і наяўнасьці часу і сродкаў рознага роду перашкод, а іменна:

а) забалочваньне мясцовасьці перад пярэднім краем і ўнутры абарончай паласы;

б) павялічэньне круцізны спадаў, каб зрабіць іх недаступнымі для танкаў;

в) выкопваньне равоў (пажадана — замаскаваных зьверху);

г) пабудова мінных палёў.

Гэтыя перашкоды разам з натуральнымі павінны стварыць сыстэму, узмоцненую фальшывымі перашкодамі, пабудаваную так, каб танкі, нават распазнаўшы перашкоды, пры падыходзе да іх не маглі мець прамалінейнага руху, а вымушаны былі рухацца сьцішана, зыгзагамі і перастройвацца ў вузкія страі" (ПС—29, арт. 261).

#### е) Умовы правільнай арганізацыі процітанкавай абароны

„Сума ўсіх мерапрыемстваў для барацьбы з танкамі, як напрыклад: сыстэма натуральных і штучных перашкод, адпаведнае разьмяшчэньне асобных агнявых кропак і раёнаў, арганізацыя сканцэнтраванага агню па найбольш небясьпечных кірунках—павінна стварыць умовы, пры якіх:

а) рух танкаў па меры іх праніканьня ў глыбіню абарончай паласы сьцішаўся-б або ім прыходзілася-б перастройвацца ў вузкія страі;

б) пяхота, што ідзе з танкамі, аддзялялася-б ад іх скрыжаваным кулямётным і ружэйным агнём з вучасткаў, атакаваць якія цяжка або зусім не магчыма (наяўнасьць натуральных перашкод або забесьпячэньне штучнымі);

в) танкі, якія наткнуліся на замаскаваныя, штучныя або натуральныя перашкоды, сустракаліся-б агнём артылерыі, страляючай прамой наводкай.

Натуральныя і штучныя перашкоды павінны мець кірунак ня толькі ўздоўж фронту, але і папярок, ствараючы адсекі, абараняючыя розныя вучасткі пяхоты ад атакі танкаў у флянг.

Штучныя перашкоды павінны дапоўніць схэму натуральных перашкод так, каб рух танкаў быў або зусім немагчымы (або хоць-бы сьцішаны), або магчымы быў толькі па пэўных кірунках.

Гэтыя кірункі, а таксама процітанкавыя перашкоды павінны абстрэльвацца процітанкавымі агнявымі сродкамі. Процітанкавыя агнявыя сродкі ставяцца замаскавана ня бліжэй 300 *м* ад раёну, які абстрэльваецца (дыстанцыя добрай відзімасьці і назіраньня з танку)" (ПС—29, арт. 262).

### 3. Барацьба пяхоты з танкамі.

„... Пры атацы танкаў пяхота павінна захаваць вытрымку і, прапусьціўшы танкі, накідвацца на суправаджаючую пяхоту. Для гэтага пяхотныя падразьдзяленьні павінны быць добра замаскаваны і старацца не выяўляць сябе ў часе руху танкаў, каб прапусьціць іх.

У барацьбу з танкамі пяхота ўступае толькі тады, калі танкі выявілі пяхотныя падразьдзяленьні і атакуюць іх..." (ПС—29, арт. 258).

„... Усе процітанкавыя сродкі вядуць па танках агонь..."

„У выпадку атакі танкаў пяхота і асабліва кулямётныя групы, прыкрытыя ад танкаў, імкнуцца адлучыць пяхоту праціўніка ад яго танкаў..." (ПС—29, арт. 280).

„Спосабы адбіцьця пяхотай танкавай атакі:

а) паражэньне танкаў батальённай артылерыяй, якая страляе ва ўпор;

б) стральба з кулямётаў бронябойнымі кулямі;

в) ужываньне спэцыяльных руж'яў і кулямётаў, а таксама спэцыяльных ружэйных і ручных гранат;

г) паражэньне танкістаў ружэйным і кулямётным агнём праз назіральныя шчыліны;

д) паражэньне танкістаў праз шчыліны агнямётамі;

е) разьмяшчэньня пяхотных падразьдзяленьняў на вучастках перашкаджаючых руху танкаў;

ж) пабудова акопаў, вытрымліваючых цяжар танку;

з) пабудова спэцыяльных кулямётных батарэй для барацьбы з пяхотай праціўніка, разьмешчаных за натуральнымі і штучнымі перашкодамі недаступнымі для атакі танкаў" (ПС—29, арт. 258).

„Пры праніканьні танкаў у разьмяшчэньні пяхоты пярэднія эшалёны яе імкнуцца застацца ня прыкмечанымі танкамі, прапускаючы іх міма сябе: уся ўвага накіроў-

ваецца на пяхоту, якая ідзе за танкамі, даваляючы наступным эшалёнам і артылерыі весьці барацьбу з танкамі, якія прарваліся" (БСП—27, ч. II, арт. 169).

„Асноўнае значэньне батальённай артылерыі— барацьба з кулямётамі, танкамі і броняаўтамабілямі праціўніка" (БСП—27, ч. II, арт. 482).

„... Для процідзейства танкаваму нападу батальённыя гарматы займаюць такую пазыцыю, каб магчыма было паражаць атакуючыя танкі ў флянг як у часе іх падыходу да батальённага раёну, так і пры ўварваньні ў яго.

Вельмі выгадна, каб гарматы былі прыкрыты з боку праціўніка цяжка перамагальнымі для танкаў перашкодамі" (БСП—27, ч. II, арт. 389).

„...Калі атака праціўніка падтрымліваецца танкамі, то ўдарная група, прапускаючы танкі міма, раптоўна атакуе суправаджаючую іх пяхоту ў флянг. Станкавыя кулямёты ў барацьбе з танкамі могуць аказаць вялікую дапамогу (тры кулямёты могуць весьці пасьпяховую барацьбу з адным асобным танкам)..." (ПС—29, арт. 280).

### 4. Барацьба артылерыі з танкамі.

„Для найлепшага выканьня артылерыяй пастаўленых ёй задач патрабуецца поўная адпаведнасьць гэтым задачам калібраў, відаў агню і скорасьці стральбы наяўнай артылерыі і маючыхся агнявых прыпасаў.

Найбольш мэтазгоднае ўжываньне артылерыйскіх сродкаў для стральбы па featureрознага роду цэлях паказана ў табліцы.

ТАБЛІЦА ЎЖЫВАНЬНЯ КАЛІБРАЎ ГАРМАТ.

| №№ па парадку | Назва цэляй | Назва адпаведных гармат |
|---|---|---|
| 11 | Танкі, броня-машыны, броня-паязды | а) Усе палявыя лёгкія і цяжкія пушкі і гаубіцы.<br>б) Дробнакалібэрныя пушкі і кулямёты. |

Як правіла забараняецца выкарыстоўваць буйныя калібры для рашэньня задач, пасільных больш дробным" (БСА—27, арт. 82).

„... Палкавая артылерыя, уваходзячы ў агульную сыстэму абароны, звычайна не ўключаецца ў агульныя артылерыйскія групы.

На яе ўскладаецца галоўным чынам абарона бліжэйшых подступаў, барацьба з танкамі і броняаўтамабілямі і суправаджэньне контратакі агнём і коламі..." (БСА—27, ч. II, арт. 231).

„... Для зьнішчэньня танкаў і броняаўтамабіляў ужываюцца асобныя гарматы, дзействуючыя на малых дыстанцыях па загадзя прыстрэленых рубяжох..." (БСА—27, ч. I, арт. 84, п. 5).

„... Дывізыйная і карпусная артылерыя сканцэнтроўвае найбольш магутны агонь (магчыма большым лікам цяжкіх гармат, асколкі знарадаў якіх найбольш небясьпечны для танкаў) па танках у той час, калі яны знаходзяцца ў больш кампактных масах або павольна рухаюцца:

а) пры заняцьці імі выходнага палажэньня для руху ў атаку;

б) калі яны праходзяць раёны, у якіх рух сьцішаецца;

в) калі яны вымушаны перастройвацца ў вузкія страі або зьмяншаць інтэрвалы для праходу вузкіх, зручных для руху пастораў або перамаганьня перашкод.

У выпадку прарыву танкамі пярэдняга краю батарэі і асобныя гарматы хутка выяжджаюць на загадзя падрыхтаваныя пазыцыі і вядуць агонь па раёнах, не занятых пяхотай, загадзя вызначаных і вывучаных..." (ПС—29, арт. 280).

## 5. Барацьба броняпоездаў, авіяцыі і хімічных войск з танкамі.

Усе астатнія тэхнічныя сродкі падаўленьня таксама знойдуць сабе ўжываньне ў барацьбе з танкамі:

а) бронэпаязды і чыгуначныя батарэі выкарыстоўваюцца як рухомая артылерыя;

б) авіяцыя выкарыстоўваецца для бомбардыроўкі танкаў цяжкімі фугаснымі і хімічнымі бомбамі ў раёне збору і ў момант разгортваньня;

в) хімічныя войскі могуць апырскваць танкі АМ і паслабляць такім чынам іх назіраньне і агонь.

Выведка павінна своечасова выявіць сканцэнтраваньне танкаў і іх разгортваньне на выходным палажэньні; гэта дасягаецца падслухоўваньнем і работай самалётаў.

Пры выяўленьні танкавай атакі ўсе войскі неадкладна паведамляюцца аб гэтым, для чаго апрача звычайных сродкаў сувязі ўстанаўліваюцца асобныя сыгналы каляровымі ракетамі" (ПС—29, арт. 263).

## VI. ВЫХАД З БОЮ.

„... Часьці стратэгічнай коньніцы і бронячасьці, калі яны ёсьць, выкарыстоўваюцца для ўдару ў флянг і тыл наступаючых калён праціўніка або для арганізацыі рухомай абароны на рубяжох, прыкрываючы адыход часьцей пяхоты..." (ПС—29, арт. 300).

## VII. ДЕЙСТВЫ ТАНКАЎ У АСОБЫХ УМОВАХ.

### 1. Зімой.

„... Танкі могуць быць выкарыстаны без дарог, калі дазваляе глыбіня сьнегу, але скорасьць іх значна зьменшыцца..." (ПС—29, арт. 307).

### 2. У горах.

„... Бранявыя часьці (броняаўтамабілі і танкі) пры калёсных дарогах з посьпехам могуць быць выкарыстаны, але невялікімі часьцямі..." (ПС—29, арт. 312).

### 3. У лясох.

„... Бранявыя часьці могуць дзействаваць звычайна толькі па дарогах, а танкі—у дробным, разрэджаным лесе..." (ПС—29, арт. 321).

### 4. У пустынных стэпах.

„... Выкарыстоўваць танкавыя часьці цяжка з прычыны вялікай патрэбы ў гаручым на вялікіх адлегласьцях і цяжкасьці наладзіць забесьпячэньне іх..." (ПС—29, арт. 326).

### 5. У баі за населеныя пункты.

„...Атаку ўнутры паселішча падтрымлівае агонь кулямётаў (пастаўленых на стрэхах і чардаках дамоў, асобных гармат, мічамётаў і гранатамётаў.

**Вялікую дапамогу могуць аказаць бранявікі і танкі. Для аўладаньня выяўленымі ўнутры паселішча апорнымі пунктамі або асобнымі будынкамі, прыстасаванымі да абароны (рэдуіт), назначаюцца асобыя часьці, якім даюцца сапёры з падрыўнымі сродкамі, паасобныя гарматы, агнямёты, станкавыя кулямёты бранявікі і танкі..."**

### 6. У баі ў горадзе.

„Для абароны горад падзяляецца на сэктары, даручаемыя для абароны атрадам у саставе батальёну або роты з кулямётамі, бранявымі часьцямі, мінамётамі і артылерыяй для стральбы прамой наводкай.

... Даныя гарматы разьмяшчаюцца замаскіравана (для стральбы ўздоўж вуліц па бранявых часьцях праціўніка). Вуліцы карысна перакопваюць (супроць бронячасьцей праціўніка)" (ПС—29, арт. 339).

**Вулічны бой вядзецца асобнымі атрадамі, якія дзейнічаюць кожны па аднэй вуліцы. Сіла атраду**

у залежнасьці ад кірунку вуліцы і задачы—ад аднаго ўзвода пяхоты з кулямётамі, мінамётамі, броняаўтамабілямі або танкамі да аднэй роты з тымі самымі сродкамі і батальённымі і паасобнымі гарматамі палкавой артылерыі.

Дзействы атрадаў аб'яднаюцца ў межах батальёну, які ўзмацняецца пушачнай і гаўбічнай артылерыяй, мінамётамі, танкамі, броняаўтамабілямі, коньніцай для ахаваньня флянгаў (па суседніх вуліцах) і самакатчыкамі для сувязі...“ (ПС—29, арт. 337).

## VIII. МАРШЫ.

„... Артылерыя, не ўваходзячая ў састаў стралковых дывізый і карпусоў, бранявыя, інжынэрныя і тэхнічныя часьці, кавалерыйскія часьці, матарызаваныя часьці і г. д. звычайна рухаюцца паасобнымі калёнамі (эшалёнамі). Некаторыя з гэтых часьцей могуць таксама ўваходзіць у састаў і вайсковых паходных калён, пры гэтым месца ў іх паходнай калёне вызначаецца ў залежнасьці ад абстаноўкі...“ (ПС—29, арт. 371).

## IX. АХАВАНЬНЕ.

„... Авангарду могуць падавацца коньніца, бранявыя часьці...“ (ПС—29, арт. 392).

„Найбольш выгадным сродкам земнай выведкі ў выпадку небясьпекі зьяўленьня матарызаваных часьцей зьяўляецца высылка на 1—2 пераходы выведчых атрадаў у саставе: пяхоты на грузавікох са станкавымі кулямётамі і батальённымі пушкамі, бранявых часьцей (лёгкіх танкаў), артылерыі на мэханічнай цязе, хімічных часьцей для заражэньня вучасткаў дарог і сапёрных часьцей для зруйнаваньня дарог і мастоў“ (ПС—29, арт. 415).

„... Пры яўнай пагрозе наступленьня праціўніка на флянгу, калі нават няма паралельных дарог, буйныя

вайсковыя калёны у кірунках, найбольш зручных для наступленьня праціўніка, высылаюць бакавыя атрады, якія займаюць выгадныя для назіраньня і абароны пункты і прапускаюць калену, што імі ахоўваецца. Пры наяўнасьці добрых папяровых дарог і для гэтае мэты з посьпехам могуць быць выкарыстаны пяхота на аўтамабілях і коньніца з бранявымі часьцямі...“ (ПС—29, арт. 395).

„Сіла і склад ар'ергарду вызначаюцца тымі самымі ўмовамі, што і авангард, з той толькі розьніцай, што з прычыны асобных задач ар'ергарду і ўмоў яго барацьбы з праціўнікам (без падтрыманьня галоўных сіл) ар'ергард павінен быць узмоцнены:

а) вялікай колькасьцю агнявых сродкаў (дальнябойнай і скарастрэльнай артылерыяй, бранявымі сродкамі, станкавыі кулямётамі)...“ (ПС—29, арт. 402).

„... У вартавы атрад звычайна назначаецца ад узмоцненай роты да батальёну пяхоты з артылерыяй, коньніцай, бронясіламі“ ... (ПС—29, арт. 445).

---

# ЗЬМЕСТ.

